# ПРОЧ З ЛІХАЗЕЛЬЛЕМ!

Аднаднёўка
Вільня, Чэрвень 1930 г.

## АДКАЗ ДЛЯ КАНСЫСТОРСКА - НАШАЖИЗНЕНСКАЙ ЧОРНАЙ СОТНІ.

Хай будзе дазволена і нам беларускай моладзі, па старонках друкаванага органу сказаць тое на ўвесь сьвет, аб чым гэтак асьцярожна, у нейкіх рамках умеркаваньня загаварыў орган Ц. Бел. Прав. Камітэту „Сьветач Беларусі“, аб чым ня раз пачынаў некалісь казаць і сьв. А. Коўш у „Беларускай Зарніцы“. Спроба іх выступленьня супроць таго, што сяньня гэтак шалёна пачала бараніць праклятая людзкасьцю і культурным сьветам чорная сотня, астаюцца ўсьцяж толькі спробамі, а гэта з прычыны іх незразумелай умеркаванасьці і „тактычнасьці“. Праўда, сяньня і сьв. А. Коўш і Цэнтр. Бел. Пр. Камітэт хіба ўжо больш ня будуць лятуцець аб супрацоўніцтве, ці аб нейкім „умеркаваным“ змаганьні з гэтым балотам! Бо гэтыя крыміналістыя першага амаль ня выкінулі з Вільні, а другога зрабілі нейкім страхоцьцем Праваслаўя. Таму вось, хай нам і будзе дазволена назваць рэчы па імю! Мы, беларуская моладзь, хоць і пражываем сяньня найстрашнейшую ў жыцьці народу трагэдыю, аднак мы ў змаганьні сваім ня ведаем шляху здэгэнараванага кіданьня, правакацыі, і таму, выступаючы сяньня супроць крыміналістычных, амаральных паярэмнікаў Нашай Царквы, мы лаяцца, кідаць балотам, займацца, на ўзор сяброў Віл. Кансысторыі, духовай прастытуцыяй, мы ня будзем. Мы будзем казаць, як ёсьць, называць рэчы ўласным імём! Белую Русь яе сыны ніколі ня збрузгаюць, яна белай і астанецца! Хто-ж адважыцца Яе і нашу беласьць брузгаць балотам, мы таму заўсёды дамо належны адпор. Мы не спалохаемся дзеля дабра Нашае Бацькаўшчыны, дзеля дабра Праваслаўнай Царквы на Беларусі выступіць адкрыта супроць рамесьнікаў клятвапраступніцтва—арх. Хвядосаў, супроць крыміналістаў займаючыхся паддлогам і зладзействам — пр. Кушнёвых, супроць духовых прастытутнікаў, перавертняў, таргаўшчыкоў пачуцьцяў рэлігійных—архім. Марозавых, супроць правакатараў, прахадзімцаў, дэгэнэратаў, гэмофрадытаў — прат. Тучэмскіх, супроць распусьнікаў, пакідаючых у заклад, за прыемнасьць гулянкі з публічнай кабетай (прастытуткай), крыж і расу, прафанатараў прат. А. Сурвіллай, таварышоў крыміналіста Кушнёва. Мы не спалохаемся адкрыта выступіць супроць агэнтаў Г.П.У,—Боханаў, якія прадаюць камуністым і беларусаў і расейцаў, супроць Егоравых, Шафранавых, Валэйшаў, Паўлюкевічаў, Смаржэўскіх і інш., з якіх адныя зьяўляюцца катаржнікамі, будучы засуджанымі на дзесяткі гадоў вастрогу (Валэйша), другія даносчыкамі, зладзеямі (Бохан, Егораў, Шафранаў) іншыя, як Паўлюкевіч — прадажнікамі беларускага сялянства, пр вакатарамі беларускага грамадзянства; гэтак сама выступім і супроць прахадзімцаў Смаржэўскіх, які, будучы вўчыцелем, натраўляе вучняў сваіх адзін на аднаго, расейца на беларуса і паляка, „сацыяліста“ на „маархіста“, пяючы ў душы „Божа цара... вярні!“ Мы „выйдзем шчыльнымі радамі!“ Мы скажам сьмела і адкрыта, без усялякіх запінак і замінак (як робіць сяньня „Сьветач Беларусі“), што Царква на Беларусі мусіць быць беларускай, што нам усялякія Саборы, на якіх ня будзе прадстаўнікоў ад Беларусаў, нуль цана, што сяньняшняя прадажная кансысторская свора для нас толькі гняздо крыміналістаў.

Мы скажам аб гэтым сьмела і адкрыта, магчыма за вельмі востра, але „да пары збан ваду носіць“, на ўсё ёсьць мера, мы не дазволім лезьці нам на галаву, піць з нашых бацькоў апошнюю кроў, зьдзіраць апошнюю кашулю. Хай кансысторскія крыміналісты і іх прастытуткі „Нашы Жізні“ ведаюць, што мы не дазволім зьдзекавацца над нашым гаротным, забітым, цёмным народам! Хай гэтыя банкроты, клятвапраступнікі ведаюць, што мы маем сяньня досыць ужо сілы, каб бараніць свае правы, сваю Айчыну. Хай ведаюць гэтыя паны здэгэнэраваныя, што мы „мужыкі“ ня хочам іх мець між сабой, бо іх месца „панскае“ ня тут у Белай Русі, а там, дзе панскія адкіды! Мы будзем змагацца па „мужыцку“, гаворачы ўсё шчыра, ад болю і адчаю, а ня панска шантажна, правакатарска, мураўёўска ад вялікай тугі па цару! І вось таму мы будзем казаць хоць можа і за востра, але шчыра, па „мужыцку“. Будзем казаць праўду, дзеля праўды і за праўду! Канчаючы гэты ўступ нашага апавяшчэньня, якое мы цалком абаперлі на даных, абаперлі на дакумэнтальных фактах і здарэньнях, аб якіх шмат хто ведае ўжо сяньня, мы, моладзь беларуская, сыны працоўных і сялян, дзеці крывіцкіх ніваў, з'імшалых разбураных вёсачак, кідаем гэткі кліч: **Браты Беларусы!** мы, каторыя сядзелі па вастрогах за вас, мы, каторыя сяньня церпім тут вучачыся і голад, і холад, каб тое, што здабудзем аддаць Вам, мы каторыя баронім Вас, змагаемся за Вас, мы, вашы дзеці, родныя дзеці, клічам Вас да барацьбы з кансысторыяй, загадываем Вам не плаціць на кнсысторыю ні граша, ні аднаго зярнятка збажынкі! Мы дамагаемся ад Вас таго, каб Вы не дазволілі праклятым прыгоньнікам з кансысторыі абдзіраць сябе кансысторскімі падаткамі, не дазвалялі разбураць свае Цэрквы і хаты, плацячы непатрэбна кансысторскім зладзеям, каб яны маглі цягацца па карчмах з прадажнымі кабетамі, каб яны мелі за што лаяць вашых абаронцаў, змагацца з вашай мовай роднай з вамі самымі! Браты! Бацькі! Мы дамагаемся гэтага для вас і вашага дабра! Бо калі мы зарачомся Вас, калі вы ня пойдзеце нам на сустрэчу — бяда будзе вам! Ці памятаеце часы прыгону! Будзе горшы прыгон! Таму, ні адзін з вас хай ня плаціць на кансысторскія хаценьні. мы і так бедныя і абдзёртыя! Таму, хай кожны з вас голасна і ўсюды крычыць проч з кансысторыяй! проч з чорнай сотняй! проч з парабкамі цара „единой... неделимои!

**Хай кожны і ўсюды крычыць: „мы хочам мець сваю Беларускую Царкву! Мы хочам быць людзьмі!“**

# ЦЁМНЫЯ СІЛЫ ПРАЦУЮЦЬ.

У вапошні час нарэшце выявіўся праўдзівы твар тых, хто стаіць **на чале Праваслаўнай Царквы на Беларусі**, хто павінен узмацняць яе, быць духоўным правадыром народу і быць прыкладам хрысьціянскага жыцьця і маралі. **Айцы духоўныя, засеўшыя ў Віленскай Духоўнай Кансысторыі з архіяпіскапам на чале,** каб захаваць для сябе і на далей залатаносную крыніцу, якой зьяўляецца Кансысторыя, аб'ядналіся з адпадамі чорнасоценнага маскоўскага грамадзянства **і павялі акцыю процій беларусізацыі Праваслаўнае Царквы**.

Беларусізацыя Праваслаўнае Царквы, як яе разумее беларускае праваслаўнае прадстаўніцтва, павінна пайсьці шляхам беларусізацыі духоўных кансысторыяў, сэмінарыяў і духавенства, не закратываючы багаслужэбнай царкоўна-славянскай мовы.

Здавалася бы, што ў гэтым няма нічого страшнага, нічога такога, што бы пасягала на чыстасьць і цэласьць Праваслаўнае Царквы. Бо зьяўляецца абсалютна зразумелым, што духаўнік Праваслаўнага Беларускага народу павінен быць блізкім яму і па крыві і па мове.

Каб на архіяпіскапскай катэдры і ў кансысторыі сядзелі людзі шчыра і ахвярна адданыя вялікай справе служэньня Царкве, то яны павінны былі пайсьці на спатканьне гэтым справядлівым жаданьням беларускага народу, і ў кантакце з прадстаўнікамі беларускага праваслаўнага грамадзянства распачаць рэформу духоўных устаноў у гэтым сэнсе.

Але, нажаль, Віленскай Кансысторыяй кіруюць людзі з **самай чорнай сотні**, людзі, якія ня дбаюць аб дабры Царквы, для якіх скурнае пытаньне стаіць на першым мейсцы.

Гэтыя людзі бяз ніякіх прынцыпаў, пазбаўленыя самай прымітыўнай маралі, людзі, прывыкшыя панаваць **над бязпраўным, забітым сельскім духавенствам**, для якіх Царква—гэта магчымасьць „получше устроіться", гэтыя людзі добра разумеюць, што беларусізацыя Царквы — гэта пазбаўленьне іх гэтых магчымасьцяў, а нават і ачышчэньне Царквы ад **гэтага нягоднага элементу**. І вось айцы духоўныя пад правадырствам свайго **гэнэрала арх. Хвядоса** распачынаюць самую **гнюсную** акцыю ў такой-жа, як і яны, **чорнасоценнай расейскай газэціне** „Наша Жизнь". Мала таго, для правядзеньня гэтай акцыі яны ўваходзяць у блёк з **адпадкамі** чорнасоценскага расейскаго грамадзянства і нават з **крымінапістам**, вядомым **афэрыстам С. Валэйшам**, Яны ў сваёй газэціне закідаюць брудам усіх тых, хто вядзе акцыю беларусізацыі Прав. Царквы і стараюцца дыскрэдытаваць самую ідэю беларусізацыі Царквы.

Мы павінны раскрыць беларускаму грамадзянству твары гэтых нягодных людзей і даць іх больш-менш праўдзівыя біографіі.

**Архіяпіскап Хвядос**. Характэрны прадстаўнік чорнасоценнага маскоўскага духавенства. Гэта той самы арх. Хвядос Смаленскі, які ў 1918 годзе на Асьвячоным Япіскапскім Саборы у Кіеве разам з другімі падпісаў страшную клятву на барацьбу за сьв. Праваслаўе ў Расеі, дзеён павінен быў да астатку сілаў бараніць Праваслаўную Царкву, і калі трэба будзе — прыняць мучаніцкі вянец. Многа з тых эпіскапаў, якія былі разам з Хвядосам на Саборы датрымалі клятву і прынялі ўжо мучаніцкую канчыну ад бальшавікоў. А Хвядос Смаленскі-Віленскі **уцёк да Польшчы, дзе прысягнуў Аўтакэфальнай Царкве у Польшчы** і займаецца сам уціскам беларускага праваслаўнага духавенства.

**Клятвапраступнік!** Ня мейсца табе на беларускай зямельцы, асьвячонай барацьбой духавенства за сьв. Праваслаўе і беларускі Народ!

**Архімандрыт Піліп Марозаў**. Паходзіць з Валагодзкай губэрніі. Быў у віленскай духоўнай сэмінарыі рэктарам якраз у пару рэарганізацыі сэмінарыі. Духоўная сэмінарыя павінна была перайсьці з выкладовай расейскай мовы альбо на беларускую, альбо на польскую. І як ведама, Марозаў сэмінарыю „зрэарганізаваў", робячы яе школай маральных калекаў на ўсё жыцьцё. Ня гледзячы на гэта не атрымаў доўга-жданай архірэйскай мантыі. Абураны на такую „несправядлівасьць" Марозаў уваходзіць у зносіны з Рымам і пераходзіць у вунію. Але і там яму не пашэнціла—япіскапам не зрабілі, ды і грошай мала давалі. Тады Марозаў з вуніі ізноў пераходзіць у Праваслаўе. Становіцца сябрам Віленскай духоўнай кансысторыі і памагае ар. Хвядосу душыць усё беларускае.

У прыватным сваім жыцьці вядомы ўсёй Вільні, як ultra — распусьнік, ala Распутін.

Стойкасьці і адданасьці сьв. Праваслаўю у такога перакульшчыка і амаральнага тыпа шукаць ня прыходзіцца. За грошы і гонары ён гатоў прадаць і праваслаўную веру і самога сябе.

І вось такі „**стопп**" праваслаўя бароніць праваслаўную Царкву ад развалу. Атрымоўвае ад арх. Хвядоса граматы з падзякамі і ўсялякія нагароды.

**Протоіерэй Кушнёў**. Першы друг, нянька і дарадчык арх. Хвядоса. **Расеец — беларус — паляк**, як сам сябе характэрызуе у сваіх пропаведзях.

Вядомы добра усей віленскай эпархіі, як **абакраўшы Віленскі сьвечны склад. Справа аб гэтым машэнстве** была ўжо скіравана да пракурора, але той-жа арх. Хвядос затрымаў яе. Як настаяцель Мікалаеўскай царквы аддаў на 36 гадоў зямлю гэтай царквы, быццам для правядзеньня каналізацыі у царкоўным доме. Як сябра кансысторыі, **браў і бярэ хабары** за перамяшчэньні і назначэньні сьвяшчэньнікаў на прыходы.

І вось гэты, пазбаўлены ўсялякіх прынцыпаў і маралі сьвяшчэньнік зьяўляецца стараньнем арх. Хвядоса законавучыцелем у ўрадовых школах. Цікава, якой маралі вучыць гэты айцец-законавучыцель падрастаючае пакаленьне?

**Толькі напэўна нехрысьціянскай!**

**Проторіерэй Тучэмскі**. Рэнэгат украінец-Рэктар сэмінарыі, закаранелы чорнасоценны расейск-манархіст. Слаўны тым, што ненавідзіць усё беларускае, цісьне і нават пазбаўляе матуры сэмінарыстаў беларусаў. Як рэктар сэмінарыі сполёнізаваў яе, **душыць усё беларускае**.

Ясна, што яму ня мейсца у сэмінарыі, якая мае на мэце узгадаваньне духоўных пастыроў для беларускага народу.

**Протоэрэй Краскоўскі.** Сябра духоўнай кансысторыі. Па паходжаньню *паляк.* Хоць не зьяўляецца прыхільнікам да расейшчыны, але і да беларусізацыі адносіцца індыфэрэнтна. Шкоды ня робіць, але і карысьці ад яго няма.

ДАРАФЕЙ БОХАН. О, гэты Бохан — Артыст! *Д. Бохан* — расейскі эмігрант. Паходзіць з Менскай губ. Быўшы афіцэр расейскай арміі. Да 1922 году *служыць у бальшавікоў* і займае ў іх гэнэральскае мейсца, як кіраўнік артылерыйскага складу. *Са зґоды бальшавікоў нелегальна пераходзіць граніцу* і пасяляецца у Польшчы. Пачынае займацца *даносамі на рускіх эміґрантаў* у польскую палітычную паліцыю, і у той *самы час падтрымлівае кантакт з менскімі бальшавікамі і служыць у Г. П. У.* Цяпер служыць у кансысторыі і кіруе чорнасоценнай бруднайгазэцінай „Наша Жизнь", бо рэдактар Катлярэўскі балван. Праз гэтага Бохана кансысторыя ўвайшла у блёк з *Ягоравым, А. Паўлюкевічам і С. Валэйшам* і разам распачалі акцыю проціў беларусізацыі Царквы у газэце „Наша Жизнь" гэтай памыйнае яме.

В. ЯГОРАЎ. Хто ён і скуль, ніхто ня ведае. Зьяўляецца на Віленскі брук і пачынае займацца даносамі і інфармацыямі ў Палітычную Паліцыю і шмат нявінных людзей пасадзіў у турму. Хоць і расеец, але служыць рэпортэрам у газэце „Dziennik Wileński". Чалавек бяз ніякіх маральных асноваў і дэгэнэрат, паразыт, вар'ят. За грошы прадасьць усё і ўсіх Жыве выключна газэтным шантажом і жульніцтвам.

А. ПАЎЛЮКЕВІЧ. Добра вядомы усім беларусам сваей „працай". Сын сьвяшчэньніка Менскай губ. вядомага чорнасоценца і *абрусіцеля краю.* У часе бальшавіцкай рэвалюцыі ў Слуцку служыць у бальшавікоў і займае ў іх якуюсь паважную пасаду. Потым невядома якім чынам прымкнуў да эміґранцка-расейскага антыбальшавіцкага руху, і ўвайшоў у кантакт з расейскімі манархічнымі арганізацыямі. Не парываючы гэтага кантакту, прымазываецца да беларускага руху, дзе працуе ў Аляксюка, потым у Валэйшы, і нарэшце распачынае „працу" на ўласную руку. Творыць міфічныя арганізацыі, як т. зв. „Нацыянальная Рада", „Беларуская Хатка" і інш. Нагласьць даходзіць да таго, што асьмеліваецца ставіць сваю кандадатуру ў Сойм, але з сорамам правальваецца. У часе сваей „беларускай" працы займацца даносамі на шчырых барацьбітоў за правы беларускага народу і шмат людзей садзіць за краты. Газэты, якія выдае, вядзе выключна ў расейска-эміґранцкім кірунку, змагаючыся з бальшавізмам у Расеі і адражэнскім рухам на Беларусі. — Падтрымліваючы кантакт з расейскімі эміґрантамі, свайго выучаніка Кавэрду пасылае на забойства Войкава, за што Кавэрду садзяць у турму, каля 15 асобаў расейскіх эміґрантаў высылаюцца з Польшчы, а Паўлюкевіч, атрымаўшы грошы, застаецца і гуляе.

Праваліўшыся на выбарах Паўлюкевіч абкрадае сваю арганізацыю „Беларускую Хатку" на некалькі дзесяткаў тысячаў злотых і адыходзіць ад „беларускай" працы. Цяпер служыць у магістрацe санітарам па агляду памыйных ямаў і адходжых, другімі словамі астаўся пры сваім „фаху".

С. ВАЛЭЙША. У 1925 годзе, зарабіўшы добрыя грошы на „палітыцы", пачынае займацца выключна афэрамі і машэнствам. Купляе дом, які потым некалькі разоў прадае, атрымліваючы кожны раз за яго грошы. Закладае аўтабусную супалку, якую прыводзіць да злоснага банкруцтва, праводзіць фальшывую ліцытацыю, на якой адкупляе аўтабусы і пушчае сваіх супальнікаў бяз гроша.

Прыймае служачых у няіснуючую арганізацыю, пабіраючы ад іх каўцыі. Падрабляе тэстаманты.

Нарэшце за сваю „дзейнасьць" пападае пад суд, які прысуджае яго агулам на 7 годаў і 8 месяцаў. І вось такі „ЖУЛІК" апэлюе да грамадзянства праз прэсу. Да таго-ж той-жа сам Валейша быў суджаны расейскімі судамі за крымінальныя праступкі на 11 гадоў і толькі дзякуючы прыходу немцаў вырваўся з турмы. Да усіх гэтых тыпаў трэба далучыць чорнасоценскае сьмяцьцё кансысторскай „своры", як Шафранаў дэгэнрат, Маркевіч п'яніца, Лекант брыльяншчык, Бакалінская і інш.

Аб іх гаварыць шмат ня прыходзіцца, усё гэта тыпы з амаральным прошлым і цяперашнім, якія жыруюць на бязпраўнасьці сельскага духавенства і рабуюць яго. Прыехаўшы да Вільні па справам, сельскі бацюшка возіць гэтых тыпаў, трутняў на такасоўках у лепшыя рэстарацыіі дае ім грошы. Не адну апошнюю кароўку ці сьвінку зьелі гэтыя кансысторскіяпаразыты—прайдзісьветы, хабарнікі.

Вось з гэтымі кветкамі адпадкамі грамадзянства, для якіх вера, прынцып, мараль, нават звычайная прызваітасьць ня існуюць, Віленская Кансысторыя падняла сьцяг абароны Праваслаўя.

Ці-ж гэта не прафанацыя, ня зьдзек над Верай?

Калі глыбей углядзецца ў гэтую справу, то ясна стане, што галоўным імпульсам цэлай гэтай акцыі была не абарона Праваслаўя, а проста скурнае пытаньне. Беларусізацыя Духоўнай Кансысторыі адсуне ўсіх гэтых цёмных асобаў ад кіраваньня лёсам Праваслаўнае Царквы на Беларусі і заменіць іх людзьмі, аддан ымі сьвятой справе ўзмацненьня Праваслаўя на нашай зямельцы. Беларускі Народ, які у працягу некалькіх стагодзьдзяў уціску і прасьледаваньняў змог захаваць сваю веру і нацыянальнасьць, здолае і цяпер ачысьціць сваю Царкву ад гэтых няпрошаных апякуноў і абаронцаў.

# ПРАТЭСТ

Пішучы гэты артыкул мы, моладзь беларуская, хочам раскрыць тую брудную крыміналістычную работу сяньняшніх „столпов" Праваслаўнае Царквы на Беларусі, якія дзеля справядлівага выступленьня Ц.Б.П. Камітэту закрычэлі на ўвесь сьвет аб сваіх правах, аб сваей „харошасьці" абліваючы „всех і вся" балотам і гразьзю. Мы хочам горача запратэставаць супроць гэтае чорнае сотні, якая ў змаганьні з Беларусізацыяй Пр. Царквы ўзышла на гэткі крывадушны, шантажны шлях, што змусіла нас сяньня выступіць і сказаць адкрыта і шчыра. Тое, што мы кажам ня ёсьць лаянкай і брудам, бо мы усё называем так, як сапраўды завецца—уласным імем! Мы, моладзь беларуская, выступаючы сяньня на старонках друкаванага органу — прысягнулі сабе—*Беларусь мусіць быць вольнай! Беларуская Царква мусіць быць Беларускай! Усё нашае павінна быць нашым і ў нашых руках!* і вось дзеля гэтых постулятаў, у імя іх мы сяньня і ўсягды будзем належна змагацца! Сілаў і маральных і фізычных нам напэўна хопіць. Чым больш нас будуць абліваць балотам, чым больш мы за свае дамаганьні будзем цярпець, тым больш мы будзем мацнець на сілах, тым больш будзем гуртавацца, тым страшнейшы будзе канец гэтага змаганьня нашым ворагам. І вось-жа, на падставе ўсяго гэтага мы і прыступім да раскрыцьця картаў нашых „пастыраў" і „царкоўных варацілаў", каб гэткім чынам бачыла ўсё грамадзянства, бачыў Урад, бачыў увесь сьвет, што гэта за людзі і выцягнуў з гэтага належныя консэквэнцыі, выклікаў належную рэакцыю!

Мы, сыны „мужыкоў", ніколі не пагодзімся, каб на чале нашай, беларускай царквы, стаяў гэткі Хрыстапрадавец, клятвапраступнік, паклоньнік мураўёшчыны, чорнасоценец арх. Хвядос. Мы ніколі не пагодзімся з яго агіднай работай на нашых землях, з якой ён цягне сотні тысяч злотых, абдзірае яе, руйнуе яе і з гэтае эксплёатацыі ўзносіць сабе ў Пазнані небахопныя палацы, раскідвае тысячы злотых на ўсялякія палітычныя інтрыгі чорнае сотні, тысячамі злотых перад кожным вялікім сьвятам нагараджае кансысторскіх прайдзісьветаў, каб яны яму за гэта зрэванжаваліся з кансысторскіх сумаў (грошаў нягодна награбленых ад беларускага селяніна) на дзесяткі тысяч злотых. Мы з гэтым ўсім, ніколі ня згодзімся. Нашы бацькі месяцамі ня бачаць у вачох хлеба, ходзяць абдзёргымі, закарузлымі, а ён тысячы злотых выдае на ўтрыманьне цэлага штату катоў, французскіх вучыцеляк, прыслугі і т. д. і т. д. Мы з гэтым згадзіцца ня можам!!! Цэрквы, якія асталіся праваслаўным, стаяць разбураны, развалены, хоць іх і можна яшчэ было-бы ўзновіць, зрабіць сапраўды сьвятынямі.

Ці мы можам пазволіць, каб нейкі прайдзісьвет прат. Тучэмскі, адкід украінскаг аграмадзянства, прадаваў нашых братоў праваслаўных — вучняў сэмінарыі

